**АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ АДЗІН З ТРОХ НАМІНАНТАЎ**



НА ПРЭМІЮ ВАЦЛАВА ГАВЭЛА ПА ПРАВАХ ЧАЛАВЕКА

СТАР. 2

весніК ПРАВААБАРОНЧЫ

№ 8 (16) 08.2013

**2 100 000 РУБЛЁЎ ШТРАФУ МІКОЛУ ЧАРНАВУСУ**

ЗА СТРАЙКІ БАРАНАВІЦКІХ ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ



СТАР. 3

БАРАНАВІЦКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

ФЕЛЬЕТОН

# ВАЛЯНЦІН СТЭФАНОВІЧ: “ПАВЕЛ ІЗОТАВІЧ І ЯГОНЫ “СЛИВНОЙ БАЧОК””

**Валянцін СТЭФАНОВІЧ**

Спецыяльна для сайта www.spring96.org

Участарговы раз парадавала на гэтым тыдні газета «Советская Белоруссия» публікацыяй пра «лісты ў ЦРУ» Андрэя Гайдукова, разгляд крымінальнай справы якога па абвінавачванні, ні многа ні мала, у здрадзе дзяржаве не так даўно адбываўся ў закрытым рэжыме ў Віцебскім абласным судзе.

Цудоўна, Павел Ізотавіч, дальбог, бліскуча! Ваш «Сливной Бачок» як заўсёды аказаўся на патрэбнай вышыні і галоўнае – у патрэбны час. Столькі сакрэтнасці было вакол гэтага «здрадніка Радзімы» Гайдукова: і справа ў закрытым рэжыме слухалася, і падпіскі аб неразгалошванні матэрыялаў крымінальнай справы ва ўдзельнікаў працэсу, у тым ліку ў адваката, браліся. І нічога, што прысуд яшчэ не ўступіў у законную сілу, а касацыйная скарга яшчэ не была разгледжаная ў Вярхоўным судзе. Павел Ізотавіч са сваім «Сливным Бачком» ужо на месцы - інфармуе чытача! Прычым з «дакладных» і пры гэтым «невядомых» крыніц, што характэрна.



Намеснік старшыні ПЦ “Вясна” Валянцін Стэфановіч (фота svaboda.org)

Дык не першы раз так, скажаце вы, паважаныя чытачы, не першы раз! Памятаецца мне, пасля 19 снежня 2010 года Сам Галоўны загадаў апублікаваць матэрыялы расследавання па падзеях каля Дома ўрада. Што само па сабе таксама, вядома, характэрна ў частцы незалежнасці органаў следства, судоў, усялякіх там прынцыпаў прэзумпцыі невінаватасці і ўсялякай іншай буржуінскай гадасці. Павел Ізотавіч са «Сливным Бачком» тут як тут, на зыходнай пазіцыі, так бы мовіць. Больш захапляльнага чытва даўно не пачытваў.

Павел Ізотавіч, самі пастараліся? Не, ну шчыра, вельмі нават ... Вам пасля гэтага прамая дарога ў Саюз пісьменнікаў таварыша Чаргінца. Асабліва цікава аб затрыманай на ўкраінска-беларускай мяжы партыі баявых рагатак спадабалася, ну і пра арсенал зброі ў адным з гаражоў Маліноўкі. Я пра гэта яшчэ потым па тэліку глядзеў. Толькі штосці потым у крымінальных справах па «масавых беспарадках» ні зброі, ні рагатак ... Ды і наогул у газеце пра змову з мэтай звяржэння дзяржаўнай улады гаварылася, а тут нейкія беспарадкі, хай і масавыя. Яны там што, ці газет не чытаюць? Там жа яшчэ да суда спісы з прозвішчамі і адрасамі «пагромшчыкаў» і «змоўшчыкаў» былі ўказаны - прыходзь, бяры цёпленькімі!

Там жа і фота распісак аб кампенсацыях штрафаў і аплатах адвакатаў, адзнятыя кімсьці (я нават ведаю кім) на офісе «Вясны» былі размешчаны. Праўда, вось у матэрыялах крымінальнай справы Алеся Бяляцкага іх таксама чамусьці не аказалася. А навошта яны там? Бо задачай суда і следства было паказаць, што Алесь нібыта прысвоіў грошы фондаў, а тут распіскі канкрэтных людзей аб атрыманні дапамогі. Не, такога ў справе быць не павінна, усю карціну ламаюць. А вось у «Сливном Бачке» нармальна. Так, Ізотыч?

Так, добра ў вас атрымліваецца, суперфасфатны вы наш! Прафесійна! Як казаў мой глускі прыяцель, а цяпер жыхар Хайфы - поўны «халеймас» (з ідыш азначае... ды вы і самі ведаеце, што азначае). Так трымаць!

spring96.org

## Алесь Бяляцкі атрымаў кароткатэрміновае спатканне з роднымі

21 жніўня адбылося спатканне зняволенага старшыні праваабарончага цэнтра «Вясна» Алеся Бяляцкага з жонкай Наталляй Пінчук і сястрой Вольгай.

Гэта першая двухгадзінная сустрэча праваабаронцы са сваякамі ад снежня 2012 года.

Па словах Наталлі Пінчук, “Алесь паведаміў, што адчувае сябе добра, настрой ў яго бадзёры». Аднак, – удакладніла Пінчук, – знаходжанне ў папраўчай калоніі ў Бабруйску цягам 2 гадоў нармальным назваць, безумоўна нельга.

Праваабаронца Алесь Бяляцкі па–ранейшаму працуе на швейнай вытворчаці, шмат чытае, з газет ведае пра асноўныя падзеі на волі. Пад час сустрэчы ён цікавіўся жыццём сваіх блізкіх і знаёмых, іншымі навінамі.

Сёлета,калі нічога не зменіцца, павінны адбыцца яшчэ два спатканні Бяляцкага са сваякамі: адно доўгатэрміновае і адно кароткатэрміновае.

Нагадаем, што 7 жніўня, таксама пасьля доўгага перапынку, зняволенаму кіраўніку “Вясны” перадалі харчовую перадачу.

З сакавіка па чэрвень 2012 года Алесь Бяляцкі атрымаў тры вымовы, адна з якіх прывяла да страты права наведвання. Пасля трох вымоваў, у чэрвені 2012 года праваабаронца быў названы “злосным парушальнікам”, што прывяло да пазбаўлення яго права на амністыю 2012 года. У жніўні 2012 года ён атрымаў яшчэ дзве вымовы за нязначныя парушэнні рэжыму.

spring96.org

## Штраф 20 базавых за ўдзел у афіцыйным мерапрыемстве

Суддзя суда г. Баранавічы і Баранавіцкага раёна Кацярына Груда вынесла пастанову аб штрафе ў памеры 20 базавых велічынь старшыні Баранавіцкай Рады ТБМ, актывісту Руху "За свабоду" Віктару Сырыцы. Актывіст быў абвінавачаны ў парушэнні арт.23.34 Адміністрацыйнага кодэкса РБ – арганізацыі і правядзенні несанкцыянаванага мерапрыемства, прысвечанага 150-тым угодкам бітвы пад Мілавідамі паўстанцаў Каліноўскага.

Пад крыкі "ганьба" суддзя спешна пакінула судовую залу пасля абвяшчэння рашэння.

Кацярынай Груда не былі прыняты да ўвагі словы маёра Куляшова пра тое, што мерапрыемства не было, яно было адменена гарадскімі ўладамі без паведамлення пра гэта ў прэсе. Нягледзячы на гэта, суддзя прызнала, што Сырыца быў яго арганізатарам.

Віктар Сырыца лічыць, што ні ганебнага пратакола, які перапісваўся тройчы, каб падагнаць пад пакаранне, ні ганебнага суда ўвогуле не павінна было быць. Па словах Сырыцы, як можна было караць штрафам чалавека, які арганізаваў паездку людзей на афіцыйна абвешчанае мерапрыемства?

Актывіст лічыць правакацыяй з боку міліцыі і ўладаў тое, што мерапрымства было адмененым, а людзі не папярэджаны. Нават калі людзі прыехалі на маючы адбыцца фэст і чакалі 30 хвілін гэтае мерапрыемства, ні міліцыя, ні загадчык ідэалагічнага аддзела Баранавіцкага гарвыканкама Варвашэня не падыйшлі, не сказалі, што фэсту не будзе.

spring96.org

# СЯРОД ТРОХ НАМІНАНТАЎ НА ПРЭМІЮ ВАЦЛАВА ГАВЭЛА ПА ПРАВАХ ЧАЛАВЕКА – АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ

Зняволены старшыня Праваабарончага цэнтру "Вясна" Алесь Бяляцкі, Асацыяцыя маладых юрыстаў (Грузія) і Rights Defence Network (Кітай) з'яўляюцца трыма кандыдатамі на прэмію Вацлава Гавэла па правах чалавека. Адборачная камісія, якая складаецца з шасці незалежных дзеячоў і пад старшынствам Жан-Клода Міньёна, прэзідэнта Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы (ПАСЕ), 26 жніўня падрыхтавалі шорт ліст на аснове 27 кандыдатур, якія адпавядалі крытэрам прэміі.



Алесь Бяляцкі. Фота Юліі Дарашкевіч

Як паведамляе сайт - Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы, спачатку журы прадставіла спіс з шасці кандыдатаў, сярод якіх былі названыя Людміла Аляксеева (Расія), Алесь Бяляцкі (Беларусь), Грузінская Асацыяцыя маладых юрыстаў (Грузія), Вянгерскі Хельсінскі камітэт (Венгрыя), Псіхічны цэнтр абароны інвалідаў (Венгрыя) і Сетка абароны правоў (Кітай).

Беларускага праваабаронцу вылучылі больш за 30 польскіх НДА. Ініцыятыва ўзнагароджання Алеся Бяляцкага прэміяй Вацлава Гавэла належыць фонду Стэфана Баторыя.

"Неабходна заахвочваць і змяшчаць у цэнтры ўвагі тых, хто бярэ на сябе абавязацельствы ў галіне правоў чалавека, і гэта тое, што мы, магчыма, найменшае, што можам зрабіць для іх. Гэта тое, што робіць прэмію", сказаў прэзідэнт Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы Жан-Клод Міньён, калі ён абвясціў пра вынікі галасавання.

Імя пераможцы афіцыйна будзе абвешчана старшынёй ПАСЕ ў 12.30 у першы дзень восеньскай сесіі ў Страсбургу, 30 верасня 2013 года.

Мэтаю Прэміі Вацлава Гавэла па правах чалавека, з'яўляецца заахвочвання выбітных дзеячоў грамадзянскай супольнасці ў абароне правоў чалавека ў Еўропе і за яе межамі, уручаецца кожны год на Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы, у партнёрстве з Бібліятэкай Вацлава Гавэла і фондам «Charta 77. Яе вартасць € 60 000.

spring96.org

# ПРАКУРАТУРА БАРАНАВІЧАЎ АДМОВІЛАСЯ РЭАГАВАЦЬ НА КАЛЕКТЫЎНУЮ СКАРГУ ПА СПРАВЕ МІЛАВІДСКАГА ФЭСТУ

Выконваючы абавязкі Баранавіцкага міжраённага пракурора П.М. Навіцкі паведаміў праваабаронцу Сяргею Гоўшу, што калектыўная скарга грамадзян па справе Мілавідскага фэсту вяртаецца назад заяўнікам.

Удзельнікі судовага паседжання па справе Мілавідскага фэсту, абураныя неаб'ектыўным і спешным рашэннем суддзі К. Груда, накіравалі 6 жніўня калектыўную скаргу ў Баранавіцкую міжраённую пракуратуру. 10 Грамадзян паведамлялі пракурору, што грамадскі актывіст В. Сырыца быў неаб'ектыўна абвінавачаны ў падрыхтоўцы і правядзенні несанкцыянаванага мітынгу ля Мілавідскіх помнікаў 2 чэрвеня і асуджаны да штрафу 2 млн. рублёў.

Пракуратура паведаміла, што ініцыятары калектыўнага звароту не могуць абскарджваць пастанову суда Баранавіцкага раёна і г. Баранавічы ад 31.07.2013г., бо ў адпаведнасці ч. 1 арт. 12.1 ПВКаАП – гэта можа рабіць толькі асоба, у дачыненні якой яна вынесена, ці яе прадстаўнікі. Таму, калектыўны зворот вярнулі назад.

– Мы з гэтым згодны. Але мы былі самі ўдзельнікамі паездкі 2 чэрвеня да Мілавідскіх помнікаў і таксама ўдзельнічалі ва ўсіх судовых працэсах па Мілавідскай справе. Хачу адзначыць, што мы не скардзіліся пракурору на несправядлівае рашэнне суда, а толькі прасілі яго правесці расследаванне гэтай справы. Бо як высветлілася на судзе, Баранавіцкі РАУС не выканаў патрабаванне пракурора і замест праверкі факта правядзення культурніцкага фэсту 2 чэрвеня ў вёсцы Русіно, склаў на Віктара Сырыцу 3 адміністрацыйныя пратаколы за Мілавіды, – паведаміў Сяргей Гоўша.

Аўтары звароту ў Баранавіцкую міжраённую пракуратуру напішуць паўторны ліст пракурору, каб звярнуць яго ўвагу на іншыя парушэнні заканадаўства з боку мясцовых чыноўнікаў па Мілавідскай справе 2013 года.

Аляксей Снег

# МІКОЛА ЧАРНАВУС АШТРАФАВАНЫ ЗА ПРАДПРЫМАЛЬНІЦКІЯ СТРАЙКІ

У судзе Баранавіцкага раёна і горада Баранавічы 26 жніўня адбыўся разгляд адміністрацыйнай справы грамадскага актывіста і прадпрымальніка Мікалая Чарнавуса, на якога маёр міліцыі Дзмітрый Мізгер склаў два пратаколы адміністрацыйнага правапарушэння. Грамадскі актывіст абвінавачваўся ў парушэнні ч.3 арт.23.34 (арганізацыя і правядзенне несанкцыянаванага масавага мерапрыемства) падчас мітынгаў баранавіцкіх прадпрымальнікаў 27 чэрвеня і 1 ліпеня 2013 года.

У адпаведнасці з пастановай суда 29 ліпеня 2013 года справа Мікалая Чарнавуса была накіравана назад у міліцыю для выпраўлення недахопаў. І толькі пасля выпраўлення ў пратаколах памылак 26 жніўня суддзя Сяргей Данільчык разлядзеў справу грамадскага актывіста.

Загадчыца аддзела ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі Баранавіцкага гарвыканкама Таццяна Чылік даводзіла суду, што менавіта Мікалай Чанавус быў арганізатарам несанкцыянаваных акцый прадпрымальнікаў 27 чэрвеня і 1 ліпеня. Такой жа думкі прытрымліваўся ў судзе дырэктар Баранавіцкага кааператыўнага рынку Віталь Рахмеджанаў. Пасля выступлення прадстаўніцы гарвыканкама Таццяны Чылік суддзя Сяргей Данільчык паведаміў, што яна можа пакінуць суд, але яна папрасіла дазволу прысутнічаць і далей. На гэтую просьбу прадстаўніцы ідэалагічнай службы суддзя Сяргей Данільчык адказаў так: “Ну, калі няма спраў у гарвыканкаме, то можаце пасядзець у судзе”.

Мікалай Чарнавус не прызнаў сябе вінаватым ў арганізацыі страйкаў прадпрымальнікаў. Ён даводзіў суду, што 27 чэрвеня і 1 ліпеня быў стыхійны сход прадпрымальнікаў, якія сёння не ўпэўнены не толькі ў сваім цяперашнім становішчы, але і ў тым, што дзяржава зможа абараніць дробны бізнес па новых правілах Мытнага саюзу.

Суд не прызнаў грамадскага актывіста Мікалая Чарнавуса вінаватым у арганізацыі несанкцыянаваных акцый пратэсту прадпрымальнікаў, але прызнаў яго актыўным удзельнікам і прысудзіў яму адміністрацыйны штраф у памеры 21 базавай велічыні (2 100 000 рублёў).

Сяргей Вострaўскі



Мікалай Чарнавус размаўляе з маёрам міліцыі Паўлам Кульгавікам падчас страйка баранавіцкіх прадпрымальнікаў 1 ліпеня. Фота атўтара

## Суд не задаволіў патрабаванні Сырыцы да дзяржаўнай газеты “Наш край”

Суд Баранавіцкага раёна і горада Баранавічы 27 жніўня не задаволіў усе патрабаванні Віктара Сырыцы да дзяржаўнай газеты “Наш край”.

Раней мы паведамлялі, што Віктар Сырыца падаў зыскавую заяву ў суд на газету “Наш край”, якая 30 мая надрукавала інфармацыю пра культурніцкае мерапрыемства ў гонар паўстанцаў 1863 года ля Мілавідскіх помнікаў. Прачытаўшы пра гэтае афіцыйнае мерапрыемства, Віктар Сырыца заказаў аўтобус і арганізаваў 2 чэрвеня паездку аматараў гісторыі на анансаваны культурніцкі фэст. Аднак 2 чэрвеня а 12.30 ля Мілавідскіх помнікаў нікога не было. Таму грамадскі актывіст і звярнуўся ў суд.

Ён даводзіў, што рэдакцыя газеты “Наш край” не ўказала звесткі пра арганізатара гэтага культурніцкага мерапрыемства. У газеце таксама атсутнічала інфармацыя, як патрабуе закон, пра спецыфіку запланаванага мерапрыемства, не было назвы і месцазнаходжання юрыдычнай асобы і г.д. Таму Віктар Сырыца патрабаваў, каб суд абавязаў рэдакцыю газеты “Наш край” надрукаваць абвяржэнне, што 30 мая 2013 года была пададзена несапраўдная інфармацыя пра мерапрыемства ў гонар паўстанцаў 1863 года. Акрамя гэтага грамадскі актывіст імкнуўся, каб суд спагнаў з газеты “Наш край” панесеныя ім страты, звязаныя з арэндай аўтобуса ў памеры 2300000 рублёў, а таксама спагнаць з рэдакцыі газеты “Наш край” выдаткі па ўплаце дзяржпошліны за падачу зыскавай заявы.

spring96.org

## Баранавіцкі гарвыканкам забараніў пікет у падтрымку Алеся Бяляцкага

Праваабаронца Сяргей Гоўша і грамадскі актывіст Віктар Сырыца атрымалі лісты за подпісам намесніка старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Дз. Касцюкевіча. У іх паведамляецца, што гарвыканкам не дае згоды на правядзенне 4.08.2013 года інфармацыйнага пікету ў падтрымку зняволенага праваабаронцы Алеся Бяляцкага, які ўжо 2 гады знаходзіцца ў турме.

Чыноўнік лічыць, што заяўнікі парушылі рашэнне гарвыканкама ад 16.06.2009г. № 1497 "Аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў у горадзе Баранавічы", згодна якога вуліца Леніна не з'яўляецца месцам для правядзення масавых мерапрыемстваў.

Інфармацыйнае пікет бў запланаваны з мэтаю звярнуць увагу грамадскасці на праблему палітычных вязняў у краіне, якіх сёння налічваецца 12 чалавек.

– Мерапрыемства планавалася правесці ў цэнтры горада, а не ў вызначыным гарвыканкамам старым парку, дзе няма людзей. Гэтым мерапрыествам мы хацелі падкрэсліць, што ў Беларусі караюць за палітычныя погляды. А яшчэ мы меліся маральна падтрымаць не толькі Алеся Бяляцкага, але і ўсіх палітвязняў, якіх, як мы лічым, асудзілі незаконна, – падкрэсліў праваабаронца Сяргей Гоўша.

Папярэднія дзве заявы грамадскіх актывістаў на пікеты ў падтрымку Алеся Бяляцкага ў 2012 годзе Баранавіцкі гарвыканкам таксама не задаволіў.

spring96.org

# СУД АДМОВІЎСЯ РАЗГЛЯДАЦЬ ПРАТЭСТ ПРАКУРОРА ПА СПРАВЕ МІЛАВІДСКАГА ФЭСТУ

Актывіст грамадзянскай кампаніі "Гавары праўду" Вячаслаў Болбат атрымаў ліст з суда Баранавіцкага раёна і г. Баранавічы за подпісам суддзі Таропінай Н.В. У ім паведамляецца, што суд вяртае касацыйны пратэст па скарзе Вячаслава Болбата на дзеянні Баранавіцкага райвыканкама аб незаконнай забароне Мілавідскага фэсту назад у пракуратуру.

Нагадваем, 15 ліпеня суддзя Вера Углік прызнала дзеянні Баранавіцкага райвыканкама законнымі ў справе забароны правядзення Мілавідскага фэсту і, такім чынам, адмовіла ў задавальненні скаргі Вячаслава Болбата на дзеянні дзяржаўнага органа.

Аднак праз тыдзень пасля суда Вячаслаў Болбат атрымаў копію касацыйнага пратэста, які быў напісаны ад імя Баранавіцкага міжраённага пракурора Аляксея Більдзейкі і накіраваны ў судовую калегію па грамадзянскіх справах Брэсцкага абласнога суда. У гэтым касацыйным пратэсце пракурор сцвярджаў, што рашэнне суда з'яўляецца незаконным, бо «суд не учел требований заявителя по существу предъявленных требований». У сувязі з гэтым прадстаўнік пракуратуры прасіў адмяніць рашэнне суда Баранавіцкага раёна і г. Баранавічы ад 15 ліпеня 2013 года.

– Для нас касацыйны пратэст пракурора стаў вялікай нечаканасцю, бо прадстаўнік пракуратуры на судзе не прысутнічаў і я сам не пісаў скаргу ў пракуратуру на неаб'ектыўнае рашэнне суда. Зразумела, што мы спадзяваліся на перагляд судовай справы аб незаконнай забароне Мілавідскага фэсту Баранавіцкім раённым выканаўчым камітэтам, – адзначыў Вячаслаў Болбат.



Вячаслаў Болбат у судзе Баранавіцкага раёна і г. Баранавічы па справе Мілавідскага фэсту. Фота аўтара

Але, як вынікае з ліста суддзі Таропінай Н.В., гарадскі суд не будзе выконваць рашэнне Баранавіцкай міжраённай пракуратуры аб пераглядзе справы па Мілавідскаму фэсту.

– Калі справу ад забароне Мілавідскага фэсту разглядзець, як раіць пракурор па сутнасці, то, відавочна, што трэба адмяніць рашэнне райвыканкама аб яго забароне. Мы, як арганізатары гэтага культурніцкага свята, выканалі ўсе патрабаванні заканадаўства, і суд гэта добра ведае. Але наш суд сёння настолькі залежны ад выканаўчай улады, што не можа прыняць такое смелае і законнае рашэнне па справе Мілавідскага фэсту, – дадаў Вячаслаў Болбат.

Вітусь Свабодскі

## КАСАЦЫЙНУЮ СКАРГУ ПА СПРАВЕ МІЛАВІДСКАГА ФЭСТУ РАЗГЛЕДЗІЦЬ БРЭСЦКІ АБЛАСНЫ СУД

Сёння, 20 жніўня, грамадскі актывіст Віктар Сырыца атрымаў ліст з суда Баранавіцкага раёна і г. Баранавічы за подпісамі суддзі Данільчык С.В. і старшыні суда Кміты М.А., у якім паведамляецца, што суд накіраваў адміністрацыйную справу па скарзе Віктара Сырыцы ў Брэсцкі абласны суд. Такім чынам, справа пра вынесены штраф В. Сырыцу за Мілавідскі фэст цяпер будзе разглядацца 29 жніўня а 11-ай гадзіне ў будынку Брэсцкага абласнога суда (вуліца Савецкіх пагранічнікаў, д.41).

Нагадаем, што пастановай суддзі Кацярыны Груда ад 31.07.2013г. Віктар Сырыца быў прызнаны вінаватым у здзяйсненні правапарушэння, прадугледжанага ч. 2 арт. 23.34 КаАП. Ён быў адміністрацыйна пакараны штрафам ў памеры 20 базавых велічынь за падрыхтоўку і арганізацыю несанкцыянаванага мітынгу ў Мілавідах 2 чэрвеня 2013 года.

– Я абавязкова паеду ў Брэст. Там буду даказваць, што я не парушаў адміністрацыйнае заканадаўства, што кожны грамадзянін Беларусі мае гарантаванае канстытуцыяй права (арт. 51) на ўдзел у культурным жыцці краіны, – паведаміў Віктар Сырыца.

spring96.org

**"ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК"** Баранавіцкі інфармацыйны праваабарончы бюлетэнь

**Калі парушаны вашыя правы, маеце пытанні, заўвагі ці прапановы - звяртайцеся.**
Дапамога бясплатная. Нашы кантакты: тэл. 8 029 7220957, e-mail: viasna_bar@tut.by

Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад 299 асобнікаў

ВЕСНІК ПРАВААБАРОНЧЫ